# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ

Выдае: Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы

## 7

# BYELORUSSIAN YOUTH

Published by Byelorussian Youth Association of America

1960

## ЗЬМЕСТ



**НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ**

**ЗША**

Miss L. Michalcyk, 1211 Starkweather Ave., Cleveland, Ohio
Mr. A. Karol, 30 Easton Ave., New Brunswick, N. J.
Mr. M. Kuczura, 1217 N. Wolcott Ave., Chicago 22, Illinois
Mr. I. Laszkiewicz, Summer St., N. E, Minneapolis 13, Minn.
Miss S. Pleskacz, 17574 Brush Ave, Detroit 3, Mich.
Mr. M. Sienka, 24 Herman St., South River, N. J.

**Канада**

Mr. U. Baranovich, 111 Lindsey Ave., Toronto, Ontario
Mr. K. Karanieuski, 143 Cathleen St., W, Sudbury, Ont., Canada.
Mr. B. Lisconak, 472 Bayron Court, Oshawa, Ontario.
Mr. M. Silvanovic, 128 Wallnut St., Winnipeg 10, Manitoba, Canada.

**Ангельшчына**

Mr. A. Laszuk, 97 Moore Park Road, London S. W. 6

**Бэльгія**

Mr. U. Bakunovic, 19 Place Hoover, Louvain

**Аўстралія**

Mr. W. Akavity, 80 Tapleys Hill Rd., Royal Park, S. A.
Mr. M. Nikan, 14 Steel St., Spotswood, Victoria
Mr. A. Vasilenia, 39 Edwin St., Croydon, New South Wales.


Адрыс рэдакцыі: „Беларуская Моладзь", 401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.

Гадавая падпіска у ЗША й Канадзе — $2. Грашовыя перaказы выстаўляць на: "BYELORUSSIAN YOUTH"

Byelorussian Youth Association of America, 401 Atlantic Ave., Brooklyn 17, N. Y.


# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ


**Квартальны часапіс беларускага маладога пакаленьня ў Амэрыцы**
**Выдае: Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы**
**Рэдагуе: Калегія**

Год. выд. II. ЛІПЕНЬ—ВЕРАСЕНЬ 1960 г. № 7




# 9-Ы ГАДАВЫ ЗЬЕЗД ЗБМА

*3 - 4 ВЕРАСЬНЯ 1960 г.*

*Клійлэнд, штат Огаё.*

**СЫБОТА, 3 ВЕРАСЬНЯ**

*10-я гадз. раніцы:*

**Валейбол,** Lincoln Recreation, Starkweather Ave.

**Удзельнікі:** Хлапцы й дзяўчаты зь Нью-Ёрку, Саўт-Рывэру, Дэтройту, Нью-Брансўіку, Кліўленду.

*1-я гадз. папаўдні:*

**Нарады Зьезду,** Беларускі Народны Дом, 3517 West 25th St. Прывітаньні, справаздачы, выбары, пляны.

*9-я гадз. вечара:*

**Вечарына,** Menger Hotel, E. 13th St. & Chester Ave.

У нядзелю 4 верасьня моладзь бярэ ўдзел у высьвячэньні царквы БАПЦ у Кліўленьдзе, банкеце, сходзе, канцэрце, кніжнай выставе, вечарыне з конкурсам народнае вопраткі ды ў іншых імпрэзах, што будуць ладжаныя ў рамках чацьвертае сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі.

**Кароткія ведамкі аб ЗБМА сяньня:**

Згуртаваньне мае тры аддзелы й шмат сяброў расьселеных па цэлай Амэрыцы, усіх разам каля 150 асобаў. Ужо другі год выдаецца часапіс „Беларуская Моладзь", што расходзіцца па цэлым сьвеце.

**Кіраўнічыя органы ЗБМА на 1959-1960 год:**

**Галоўнае кіраўніцтва:**

Вячаслаў Станкевіч, кіраўнік; Вінцэнты Паланевіч, заступнік; Арнольд Акановіч, сакратар (адмовіўся ад працы 3. XI. 59); Ніна Каваль, скарбнік; Аўген Лысюк, сябра.

**Аддзел Кліўленд:**

Уладзімер Дунец, кіраўнік; Міхась Яраховіч, заступнік; Іра Каляда, сакратар; Маня Лук'янчык, сакратар; Лёля Міхальчык, скарбнік; Уладзімер Літвінка, культурна-асьветны рэфэрэнт.

**Аддзел Нью-Ёрк:**

Аўген Лысюк, кіраўнік; Аркадзь Каваль, заступнік; Слава Цэлеш, сакратар; Оля Мельяновіч, скарбнік; Вячка Станкевіч, сябра.

**Аддзел Саўт-Рывэр—Нью-Брансўік:**

Аліна Лосік, кіраўнік; Аня Стома, сакратар; Надзя Хмялеўская, скарбнік; Міхась Каранеўскі, сябра; Герда Кабушка, сябра.

**Рэвізійная камісія й Сяброўскі суд:**

Васіль Мельяновіч, старшыня; Юрка Станкевіч і Поля Груцько, сябры.

**Выбраныя камісіі для правядзеньня 9-га Зьезду:**

**Мандатная:** Аркадзь Каваль, Лёля Міхальчык, Аня Стома.

**Рэзалюцыйная:** Міхась Яраховіч. Герда Кабушка, Багуш Станкевіч.

**Статутовая:** Аўген Несьцяровіч, старшыня.

**Шлём гарачыя прывітаньні юбілейнаму джэмбары мадзярскіх скаўтаў у Кліўленьдзе!**

**Беларуская моладзь вітае Арганізацыю Амэрыканскіх Скаўтаў (BSA) зь 50-гадовым юбілеем!**







# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ



Гады 1800-1850 трагічна цяжкі час у гісторыі беларускага народу. Масква, заваяваўшы Вялікае Княства Літоўскае (у 1795 г.) адразу ўзялася за жорсткі перасьлед усяго беларускага, каб як найбаржджэй дасягнуць свае мэты — зрабіць зь Беларусі правінцыю Расеі, а Беларусаў перарабіць на Маскалёў.

Было забаронена карыстацца беларускай мовай у цэрквах, касьцёлах, урадах, школах, на балонках кніжак.

Вось здавалася ўжо, што ў такіх цяжкіх абставінах беларуская мова, культура, сам народ загіне, памрэ назаўсёды... Найздальнейшыя сыны Ягоныя адыходзілі служыць чужым культурам — польскай, або расейскай.

Аднак, Беларусь не памерла. Ідэі францускай рэвалюцыі — воля, роўнасьць і брацтва ўсіх народаў — знайшлі свае водгукі і ў Беларусі ды далі пачатак беларускаму адраджэньню. Пад іхным уплывам адзінкі зь сярэдняе й дробнае шляхты, некаторыя прафэсары, навучоныя й сьвятары пачалі цікавіцца доляй свайго народу й актыўна працаваць на ягонае дабро. Патрыятызм беларускіх навучоных пашырыўся сярод беларускае студэнцкае моладзі ў Вільні, а пасьля зачыненьня віленскага ўнівэрсытэту (у 1832 г.) — у Петраградзе.

Рэвалюцыйныя настроі, дамаганьні палітычнае свабоды й справядлівасьці дайшлі ў поўнай сіле й да Расеі. Паняволеныя Расеяй народы — польскі, беларускі й летувіскі ў 1863 г. паўсталі супраць прыгнятальніка.

Паўстаньне пачалося ў Польшчы, але неўзабаве перакінулася на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага — Беларусь і Летуву. Тут змаганьне трывала даўжэй і было вельмі зацятае.

Паўстаньне на Беларусі мела й зу-

сім іншы характар, як у Польшчы. Польскае паўстаньне кіравала багацейшая шляхта, што ймкнулася да аднаўленьня незалежнае Польшчы із старымі шляхоцкімі парадкамі ды мала цікавілася доляй сялянаў і мяшчанаў. У Беларусі й Летуве паўстаньне кіравалі дробная шляхта й мяшчане — прыхільнікі незалежнасьці Вялікага Княства Літоўскага ды новага сацыяльнага ладу, які дасьць сялянам зямлю бяз выкупу, асабістую свабоду й доступ да асьветы.

Мозгам і рухавіком паўстаньня ў Беларусі стаўся былы студэнт Кастусь Каліноўскі. Ягоныя ідэі, ініцыятыва й нязломны дух знайшлі сваё адлюстраваньне ў характары паўстаньня ў Беларусі ды ў ягоных удачах. У 1863 г. Кастусю Каліноўскаму было ўсяго 25 год. Ужо тады гэты вялікі чалавек меў выраблены палітычны сьветапагляд.

Кастусь нарадзіўся 21-га студзеня 1838 г. у Мастаўлянах каля Ваўкавыску, у сям'і беднага шляхціца-ткача. Яшчэ хлапчуком ён добра пазнаў цяжкое жыцьцё запрыгоненага беларускага селяніна.

Наведваючы прагімназію ў мястэчку Сьвіслачы, а пасьля Петраградзкі ўнівэрсытэт, Кастусь бліжэй пазнаёміўся з рэвалюцыйнымі ймкненьнямі сярод студэнтаў дый сам захапіўся імі. Студыюючы права ў Петраградзе, ён браў актыўны ўдзел у палітычнай студэнцкай арганізацыі. Вялікі ідэйны ўплыў на Каліноўскага меў ягоны старэйшы брат Віктар, што студыяваў на тым-жа ўнівэрсытэце.

Скончыўшы студыі ў 1860 г., Кастусь вярнуўся на Беларусь і шчыра ўзяўся за палітычную працу на беларускай ніве. Ён і ягоны сябра Фэлікс Ражанскі, пераапрануўшыся за вандроўных гандляроў, абышлі пехатою ўсю Горадзеншчыну. Яны гутарылі зь сялянамі ды заклікалі іх змагацца з маскоўскай уладай і польскімі панамі, што трымалі сялянства ў эканамічнай няволі ды ймкнуліся зьнішчыць увесь беларускі народ. Побач із гэтым Каліноўскі заклікаў сялянаў працаваць над адраджэньнем беларускае культуры й аднаўленьнем беларускага гаспадарства. Сяляне, незадаволеныя зямельнай палітыкай расейскага ўраду, вельмі прыхільна прыймалі Каліноўскага. Хаця ў 1861 г. маскоўскі цар, баючыся сялянскіх забурэньняў, афіцыйна скасаваў прыгон, палажэньне сялянаў мала палепшала. У руках абшарнікаў засталося больш за 60% зямлі, а за атрыманую зямлю сяляне мусілі плаціць паном вялікі выкуп.

Кастусь Каліноўскі добра пазнаў думкі й настроі ўсіх пластоў народу — сялянаў, мяшчанаў, беднай і багатай шляхты — і дайшоў да высnаву, што ў змаганьні за лепшую будучыню й незалежнасьць Беларусі трэба абаперціся найперш на сялянаў. Ён перакана́ўся, што ў шляхты, асабліва багацейшае, ужо ня было патрыятызму. Пераняўшы шмат із польскае культуры, яна не адчувала нічога супольнага з прыгнеценым ёю беларускім сялянствам. Наадварот, у панічным страху перад сялянскім бунтам, шляхта была гатовая падтрымаць Маскву, каб толькі забясьпечыць свой матар'яльны дабрабыт.

Дзеля таго ў сваёй дзейнасьці Кастусь Каліноўскі ўзяў найбольшую ўвагу на вызваленьне, асьвету й нацыянальнае ўсьведамленьне сялянаў. Ягоным ідэалам было зрабіць зь беларускіх сялянаў вольных людзей, нацыянальна сьведамых, эканамічна моцных і асьвечаных грамадзянаў, на якіх можа абаперціся будучая незалежная Беларусь. Дамагаючыся роўных правоў усім грамадзянам бяз розьніцы сацыяльнага стану, Кастусь Каліноўскі выказаў вялікую мудрасьць і далёкабачнасьць, да якое тады яшчэ не дайшлі палітыкі шмат якіх краёў Эўропы. Мала хто зь іх тэю парой зразумеў патрэбу й адважыўся прытарнаваць ідэалы волі, роўнасьці й брацтва да ўсіх грамадянаў. Мала хто зь іх умеў палучыць гэтыя рэвалюцыйныя думкі із старымі, але здаровымі нацыянальнымі традыцыямі, як гэта рабіў Каліноўскі.

Дзеля большай эфэктыўнасьці свае дзейнасьці Кастусь пачаў у 1862 г. нелегальна выдаваць часапіс „Мужыцкую Праўду", што пашыраўся па ўсёй Беларусі. Пад мянушкай „Яська гаспадар спад Вільні" Кастусь на балонках „Мужыцкае Праўды" пераконваў сялянаў, што лепшую будучыню яны здабудуць сабе толькі собскімі сіламі ў збройным змаганьні.

„Нам вольнасьці трэба не такой, якую нам цар схоча даці, але якую мы самі, мужыкі, паміж сабою зробіма. Няма чаго чакаць ад нікога, бо ужне толькі той, хто пасее".

О, загрыміць наша праўда, і як маланка, праляціць па сьвеце.... Ад Маскаля й паноў няма чаго спадзявацціся, бо яны ня вольнасьці, а глуму й зьдзірства нашага хочуць... Але ня доўга яны нас будуць абдзіраці, бо мы пазналі, дзе сіла й праўда, і будзем ведаць, як рабіць трэба, каб дастаць зямлю й волю..."

„Станьма-ж дружна разам за нашую вольнасьць... А будзе ў нас вольнасьць, якое ня было нашым дзядом і бацьком".

Поўным кіраўніком паўстаньня на Беларусі стаўся Кастусь Каліноўскі ўлетку 1863 г., калі ў Польшчы паўстаньне было блізу здушана, а палажэньне на Беларусі было таксама крытычнае.

Прысланы з Масквы ў чырвені 1863 г. губэрнатар Мураўёў жорстка



## ГЭРБЫ БЕЛАРУСКІХ МЕСТАЎ



**ІГУМЕН.** На блакітным полі — срыбны куст кветак, абкружаны пяцьма пчоламі. Ігуменшчына асабліва славілася пчалярствам. — **СЛУЦАК.** На чырвоным полі — Пагоня. — **БАБРУЙСК.** У вадзначеньне багацьця карабельным лесам на Бабруйшчыне гэрб Бабруйску рэпрэзэнтуе карабельную машту з двума перакрыжаванымі бярвеньнямі для маштаў. Фон срыбны.

распраўляўся з паўстанцамі, вешаючы іх, расстрэльваючы, высылаючы на Сібір... Багацейшая шляхта й абшарнікі, што датуль афіцыйна кіравалі паўстаньне паводля загадаў з Варшавы, пачалі пакідаць змаганьне й шукаць ласкі ў маскоўскае ўлады.

Прыхільнікі Каліноўскага, дзякуючы якім паўстаньне пашырылася на ўсёй Беларусі й мела ўсюды падтрыманьне з боку беларускіх сялянаў, ў жніўні 1863 г. пастанавілі ўзяць кіраўніцтва ў свае рукі. Кастусь стаўся старшынём „Камітэту, што кіруе Літвой" і далей кіраваў паўстаньне незалежна ад Польшчы. Ён зваўся „Дыктатарам Літвы", і гэты тытул шанаваўся народам.

Камітэт адразу пачаў рыхтаваць агульную мабілізацыю жыхарства Беларусі й Летувы. Мабілізацыя была прызначаная на вясну 1864 г. і мела ахапіць таксама ўсіх сялянаў.

Рыхтаваньне да яе вымагала шмат аранізацыйнае працы. Каліноўскі сам часта выяжджаў на правінцыю. арганізаваў мабілізацыйныя камісіі. пасылаў сваіх прадстаўнікоў у далейшыя акругі.

На змаганьне з паўстанцамі Расея кінула шырокую сетку шпіёнаў і жандармэрыі. У іхныя рукі лучыў высланы Каліноўскім прадстаўнік на Магілеўшчыну, 19-цёх гадовы студэнт Вітаўт Парафіяновіч. Пры допытах Парафіяновіч заламаўся й выдаў Расейцам адрыс і мянушку Каліноўскага ды адрасы іншых паўстанскіх кіраўнікоў.

Каліноўскі быў арыштаваны й засуджаны на кару сьмерці. 22-га сакавіка 1864 г. ён быў павешаны на Лукіскім пляцы ў Вільні, маючы ўсяго 26 год. Ішоў ён на сьмерць адважна, перакананы ў справядлівасьці свайго змаганьня, верны сваім ідэалам да самага канца. Стоячы ўжо пад шыбеніцай і пачуўшы, што ўрадавец заве яго „дваранін Канстанцін Каліноўскі", Кастусь крыкнуў: „Няпраўда! У нас няма дваран! У нас усе роўныя!"

Перад самай сьмерцяй, у вастрозе, Каліноўскі апошні раз зьвярнуўся да беларускага народу. Словы ягонага „Ліста спад шыбеніцы" клічуць народ да далейшага змаганьня, — ды ня толькі паўстанцаў 1864 г., але таксама й нас:

„Мужыкі, браты мае родныя!

Спад шыбеніцы маскоўскай прыходзіцца мне пісаць да вас і можа астатні раз. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мне народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але ня жаль зьгінуць за тваю праўду. Прымі, народзе, да шчырасьці маё слова перадсьмертнае, бо яно як-бы з таго сьвету толькі для дабра твайго напісана. Нямаш, браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек мае розум і навуку. Тады ён толькі урадзе жыць у дастатку, і тады толькі, памаліўшыся Богу, заслужыць неба, бо, узбагаціўшы навукай розум, разаўе сэрца і народ свой целы шчыра палюбіць. Але як дзень з ноччу ня ходзіць разам, так і навука праўдзівая ня йдзе разам зь няволяй маскоўскай. А пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога ня будзе. Ня будзе праўды, ня будзе багацьця і ніякае навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, а на пагібель нашу. Вают, народзе, за сваё чалавечае й народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную. Бо я табе спад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табой Маскаля ўжо ня будзе".

**Ліцьвін**



## ЯКУБ КОЛАС

*3 XI. 1882 — 13. VIII. 1956*



Four years have passed since the death of JAKUB KOLAS (Yakub Kolas). He was one of the two literary giants of the Byelorussian political and cultural renaissance. While the other great writer, Janka Kupala, was primarily a spiritual leader and a poet of patriotism, Jakub Kolas was the poet of the people and of the land. He was a master at portraying the Byelorussian farmer — his life, his work, his dreams. He was also fascinated by the beauty of the Byelorussian countryside, which he described in some of the unforgettable passages of his best known works: SYMON MUZYKA (Simon, the Musician), and NOVAJA ZIAMLA (The New Land).

## WHERE HAVE YOU COME FROM?

*WHO ARE YOU?*

—are some of the questions every one of us, young Americans of Byelorussian descent, has to answer at one time or another.

We know from experience that these questions cannot be answered adequately with one sentence. One sentence is usually not enough to break through that barrier of longtime indifference of most Americans to the fate of the countries which were made part of the Soviet Union against the will of their people.

Let's listen to the conversation between Michas (or Mike), who was born in Byelorussia, and Tom, who was born and raised in Brooklyn:

*Tom:* Mike, where do you come from? Originally, I mean.

*Mike:* From Byelorussia.

*Tom:* Where's that?

*Mike:* It's a country in Eastern Europe, near the Baltic Sea. Our neighbors are Poland in the West, Russia in the East, Ukraine in the South, and the Baltic countries in the Northwest.

Byelorussia is now one of the republics of the Soviet Union.

*Tom:* A republic in Russia roughly corresponds to a state in America, or to a province in Canada, right?

*Mike:* No, Tom. It is something entirely different. Let me explain the difference: In America the people of all 50 states use the English language and are brought up in the American culture. The 50 American states from a homogeneous nation.

In the Soviet Union the situation is exactly the opposite: each republic is inhabited by people of a different nationality, each speaking its own language, having its own culture and its own historical background.

For instance, Byelorussia is inhabited by Byelorussians, who use their own language.

*Tom:* Well, I have read, that the Byelorussian language is not very different from Russian, that it's practically a Russian dialect.

*Mike:* That is not true. Byelorussian belongs to the family of Slavic languages and is related to Russian to the same degree as Spanish and Italian are related and belong to the family of Romance languages. As far as I know, nobody ever considers the Spanish language an Italian dialect or the other way around.

The Byelorussian language has an established tradition and history. It was the official language of the Grand Duchy of Lithuania and as such it was used for diplomacy and law throughout Eastern Europe for many centuries. The famous legal code, "the Lithuanian Statute", was writen in Byelorussian. The Byelorussian Bible, printed in 1517, was the first book printed in any Eastern European language.

*Tom:* Was there ever an independent Byelorussian state?

*Mike:* Certainly. There were independent Byelorussian principalities as early as the 11th century. In the 13th century these states united and played a dominant role in the Grand Duchy of Lithuania — which was a power in Eastern Europe for many centuries. The Byelorussian language and culture prevailed in this state.

The Grand Duchy of Lithuania lost its sovereignty in 1795, when it was conquered by Russia. With the break-up of Tsarist Russia during the World War I, Byelorussia again proclaimed its independence on March 25, 1918, in the form of the Byelorussian Democratic Republic. The republic was soon invaded and conquered by the Russian Red Army, which imposed the communist system in our country and made it a part of the Soviet Union.

The Byelorussian people still refuse to accept this state of affairs and strive for independence of their country.

*Tom:* Why is it, that here in America we hear so little about Byelorussians' resistance to the Soviets, and about your independence movement?

*Mike:* The Soviet government, which has complete control of all information media in its country, does its best to suppress any such



news. In these efforts the Communists are often unwittingly aided by the journalists of the free world, many of whom are not acquainted with Eastern Europe and prefer to use the most easily accessible source of information — Soviet press and publications.

Another group, which does its best to suppress such news, is the Russian anti-communist exiles, residing in the free world. They dream of preserving a powerful Russian empire and therefore deny the right of self-determination to non-Russian peoples of the Soviet Union. These subjugated peoples constitute over fifty percent of the Soviet population.

Byelorussian resistance to the Soviet regime started immediately after the loss of independence, in 1920, when there was an unsuccessful uprising against the Red Army in the vicinity of Slucak. By the way, this year the Byelorussian youth of the free world comemorates the 40-th anniversary of that uprising.

The continued resistance of the entire Byelorussian people led to purges, executions and deportations during the 1930's, when great numbers of Byelorussian intellectuals, and patriots from all walks of life were brutally liquidated by the Soviets.

*Tom:* Can't the United Nations help Byelorussia in the fight for independence?

*Mike:* Theoretically, it should be able to. In order to appease Byelorussian nationalism, the Soviet were forced to permit Byelorussian Soviet Republic to become a separate member of the United Nations. However, its U. N. delegation does not serve the Byelorussian people; — it only supplies an additional Communist vote. Its members cannot even speak Byelorussian, and probably are not even of Byelorussian descent.

At the present time the Soviet government is attempting to weaken Byelorussian resistance by deporting its young people to Siberia and Central Asia — to cultivate the „Virgin Lands". As a result of these policies, the population of Byelorussia has decreased in the last 15 years. Only last year, young Byelorussians, deported to the virgin lands of Kazakhstan, revolted against their captors near the town of Temir-Tau.

---

## Recent Publications about Byelorussia

CANADIANS OF BYELORUSSIAN ORIGIN by Kaye, V. J. Prof. Reprint from the Revue de l'Universite d'Ottawa July-Sept., 1960, pp. 300-314. Bibliography.

FORTY-SECOND ANNIVERSARY OF THE DECLARATION OF INDEPENDENCE OF BYELORUSSIA. Remarks of various Senators in the Senate of the U. S. and of various Congressmen in the House of Representatives. Reprint from the Congress Records of March 24, 28, 29, 31, and April 7, 1960. Washington D. C.

# ДА НАС ПІШУЦЬ

*Даражэнькія!*

*Што да маіх заўвагаў да часапісу, дык перадусім найшчырэй цешуся, што яго выдаеце. Робіце вялікую работу. Ацэніцца яна лепш пазьней. Маё-ж пажаданьне, каб Вы змаглі выдаваць далей часапіс, як довад Вашае працы, лучнік беларускае моладзі ды заахвочаньне да гуртаваньня й дзейнасьці там, дзе нашая моладзь яшчэ не зарганізаваная або бязьдзейная.*

**М. Нікан,** Аўстралія.

---

*Сяброве!*

*У № 6 часапісу „БМ" сябра Сяргей Карніловіч прапанаваў, каб інфармацыйныя матар'ялы аб Беларусі друкаваліся ў часапісе ў ангельскай мове. Дзе-ж лёгіка? Чаму й зь якое прычыны беларуская мова павінна ўступаць чужой мове і то ў беларускім часапісе? Калі бацькі занятыя працаю й ня маюць часу навучаць дзяцей свае мовы, дык ёсьць-жа беларускія школы, дзьверы якіх адчыненыя для ўсіх дзяцей.*

*Выглядае, што ці то з-за гультайства ці зь нядбайнасьці бацькоў, мы павінны памалу зракацца адзінага нашага скарбу, што мы вынесьлі з Бацькаўшчыны — свае роднае мовы. Таму я ўважаю, што прапанова сябры С. Карніловіча ня мае ніякае падставы. Часапіс „БМ" — орган беларускае моладзі й павінен выходзіць в ы к л ю ч н а пабеларуску.*

*Я ня бачу іншае мовы, якая была-б больш адпаведнай, чымся мова беларуская — і гэта з зусім зразумелых прычынаў: Беларус, што ня знае свае мовы — перастае быць Беларусам. І гэтую думку нам выказаў яшчэ Францішак Багушэвіч, калі ён заклікаў: „Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!"*

**М. Стрэчынь,** Лювэн, Бэльгія.

---

*Letter to the Editor:*

*Please forgive me for writing in English. Even though I read and write in the Byelorussian language, it is easier for me to write in English. I always hear the English language in the street and among my friends. I learned the English language in the kindergarten, grammar school, and the Junior High. The Byelorussian language I hear only from my parents and their friends. Privately, at home, I learn the correct way of reading and writing in Byelorussian. The Byelorussian language is hard for me, maybe because I didn't read enough of the Byelorussian books, of which there are few, and they are very hard to get.*



*I like America, and I also like Byelorussia, which I never saw, but only heard about her from my parents.*

*Dear Editor: can you print some parts of the "Byelorussian Youth" in English, so that more of our American youths of Byelorussian origin could learn about the history of Byelorussia? Also our American friends of different origins could read and find out about Byelorussia.*

Alice Zamojda, Passaic, N. J.

---

*Паважаныя сябры!*

*Як Вам ведама, падрастаючая моладзь, што раз менш ужывае свае беларускія імі, а некаторыя дык і ня ведаюць свайго ймя ў роднай мове. Дзеля гэтага, раджу „БМ" ужываць поўныя імі, як Юрка, Васіль, Лявон, а ня „Ю.", „В.", „Л.".*

*Таксама зьмяшчаньне фатаграфіяў з краявідамі Беларусі было-б вельмі карысным.*

**Міхась К.,** Нью-Ёрк.

---

## Дзе жывуць нашыя сябры у Амэрыцы?

У кажным нумары „Беларускае Моладзі" друкуецца хроніка. Нашая хроніка апісвае пераважна падзеі й здарэньні з жыцьця **арганізаванае** беларускае моладзі, якая жыве ў большых беларускіх асяродках ЗША: ў Нью-Ёрку, Нью-Брансўіку, й Саўт-Рывэры, у Кліўленьдзе й Чыкага.

Апрача таго у ЗША ёсьць шмат незарганізаванае сьведамае беларускае моладзі, якая жыве большымі або меншымі групамі амаль у ўсіх штатах Амэрыкі.

Вось мясцовасьці, дзе жыве нашая моладзь:

New York, New York (Аддзел ЗБМА).

New Brunswick, New Jersey (Аддзел ЗБМА).

South River, New Jersey (Аддзел ЗБМА; Саюз Беларуска - Амэрыканскае Моладзі).

Cleveland, Ohio (Аддзел ЗБМА).

Chicago, Illinois (Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў штаце Іллінойс).

Stamford, Connecticut.

Springfield, Massachussetts.

Philadelphia, Pennsylvania.

Trenton, New Jersey.

Passaic, New Jersey.

Mount Lebanon, Pennsylvania.

Wilmington, Delaware.

Baltimore, Maryland.

Columbus, Ohio (група студэнтаў).

Detroit, Michigan.

Rockford, Illinois (большая група незарганізаванае моладзі).

Pueblo, Colorado.

Lincoln, Nebraska.

Minneapolis, Minnesota.

Seattle, Washington.

Los Angeles, California.

Washington, D. C.

„Беларуская Моладзь" будзе зьмяшчаць у далейшых нумарох інфармацыю з жыцьця нашых сяброў, якія жывуць меншымі групамі ў ЗША і іншых краёх, ды ня маюць цеснае сувязі з большымі беларускімі асяродкамі.

# ХРОНІКА

## КЛІЎЛЕНД—ЧЫКАГА

**На міжнародным канцэрце.**

18-га чырвеня танцавальная група школьнае моладзі з Кліўленду пад кіраўніцтвам сяброўкі Мані Лук'янчык выступала на міжнародным фэстывалі ў Чыкага. Не зважаючы на стомленасьць пасьля даўгога падарожжа, маладыя танцоры выступілі добра. Пасьля інфармацыі канфэрансье пра Беларусь былі выкананыя два беларускія народныя танцы: „Лявоніха" й „Крыжачок". На фэстывалі можна было бачыць танцораў з самых розных канцоў сьвету: афрыканскіх, японскіх, індыянскіх ды іншых. Заля была ўпрыгожаная нацыянальнымі сьцягамі ўдзельнікаў. Прыемна было бачыць побач з амэрыканскім сьцягам і сьцяг беларускі. Кіраўніцтва беларускае арганізацыі моладзі ў Чыкага (АБАМСІ), на просьбу якога кліўлендцы прыехалі, шчыра дзякуе ўсім бацьком маладых кліўлендзкіх танцораў, без зразуменьня й дапамогі якіх нельга было-б наладзіць гэтага выступу.

Удзел Беларусаў у міжнародным канцэрце ў Чыкага адбыўся дзякуючы ахвярнаму й працавітаму арганізатару сябру Мікодыму Жызьнеўскаму, а таксама дзякуючы Уладзімеру Дунцу й Мані Лук'янчык ды ўсім удзельнікам.

## ЧЫКАГА

**Тыдзень Паняволеных Народаў.**

У нядзелю 24 ліпеня, на заканчэньне абвешчанага Прэзыдэнтам Айзэнгаўэрам Тыдня Паняволеных Народаў, у Чыкага адбылася вялікая маніфэстацыя, у якой сярод прадстаўнікоў 23-х нацыянальнасьцяў узялі актыўны ўдзел сябры й сяброўкі АБАМСІ. Беларускія ўдзельнікі былі ў народных строях. Некаторыя зь іх выступалі ў міжнацыянальным хоры.

Маніфэстацыя адбылася ў Вялікім Парку. Сярод прамоўцаў было колькі сэнатараў і кангрэсмэнаў. Урачысты сход закончыўся прыняцьцём агульнае рэзалюцыі, у якой выказаная наважанасьць змагацца з чырвоным акупантам за правы на незалежнасьць — аж да перамогі.

## НЬЮ-ЁРК

**Падарожжа ў горы.**

Першага ліпеня моладзь Нью-Ёрку, Саўт-Рывэру й Нью-Брансўіку выяжджала на тры дні ў дом адпачынку сп. Бобрыка. Падарожжа было арганізаванае сябрам Васілём Мельяновічам і прайшло вельмі ўдала з удзелам 44 асобаў. Праграма трохдзённага выезду складалася із спартовых гульняў, купаньня й звычайнага адпачываньня. Вечарамі ўсе лучыліся вакол песьняў. Вярнуліся назад з прыемнымі ўспамінамі й новымі знаёмствамі.

**Тыдзень Паняволеных Народаў.**

Тыдзень, на працягу якога адбываліся багаслужбы ў касьцёлах і цэрквах Нью-Ёрку, закончыўся 24 ліпеня ўрачыстым сходам у „Мангэтэн Цэнтры". Першая частка сходу складалася з прамоваў, другая — з мастацкіх выступаў. Беларусаў рэпрэзэнтавалі Саюз Беларуска - Амэрыканскай Моладзі й Беларускі Кангрэсавы Камітэт. Жаноцкі ансамбль пад кіраўніцтвам сп. Еўсы беларускімі народнымі песьнямі пачаў і закончыў мастацкую частку, у якой быў выкананы таксама танец „Лявоніха".

У сувязі з Тыднем Паняволеных Народаў вучні амэрыканскіх школаў Нью-Ёрку бралі ўдзел у конкурсе артыкулаў на тэму Тыдня. Спадзяемся зьмясьціць урыўкі зь лепшых артыкулаў у наступных нумарох нашага часапісу.



Сказаўшы аб прыемным, нельга прапусьціць няпрыемнага. У той самы час, як у Нью-Ёрку праходзіў урачысты сход, падобная маніфэстацыя мелася адбыцца ў Левітаўн на Лёнг-Айлэндзе. Танцавальны гурток ЗБМА, што меўся выступаць у „Мангэтэн Цэнтры", у самы дзень выступу быў упрошаны ехаць у Левітаўн — дзеля таго, быццам-бы, што ў вадным месцы было-б зашмат Беларусаў, тады, праграма ў Левітаўне вымагала папаўненьня. Прыехаўшы ў Левітаўн, гурток ЗБМА пабачыў прыгожую, але пустую залю. Мясцовыя амэрыканскія арганізатары заявілі, што імпрэза не адбудзецца, бо замала ўдзельнікаў. Танцоры ЗБМА сумна разьехаліся па хатах, згубіўшы толькі шмат запалу й часу на рыхтаваньне выступу.

Віна тут перш-наперш амэрыканскіх арганізатараў. Аднак, вінаватыя й беларускія арганізацыі, якія бралі ўдзел у рыхтаваньні маніфэстацыі. Віна ў тым, што да апошняга часу яны ня ведалі аб плянаваным удзеле дзьвюх беларускіх мастацкіх групаў, выступ якіх можна было-б добра скардынаваць своечасова.

**Гэтым разам пацярпела толькі ахвотная да працы беларуская моладзь.**

**Сустрэча зь кіраўніком пакістанскага скаўтынгу.**

18-га жнівеня Фундацыя Кошута (асацыяцыя мадзярскіх інтэлектуалістых) ладзіла прыняцьце кіраўніку 50-тысячнага пакістанскага скаўтынгу сп. Такі Махсіну, які адбывае цяпер падарожжа вакол сьвету для азнаямленьня з праблемамі моладзі нагул, а скаўтынгу ўпаасобку. Прабыўшы два гады ў Афрыцы ды наведаўшы там 23 краі, сп. Махсін вельмі добра азнаёмлены з настроямі афрыканскае моладзі, пра што ён расказваў на прыняцьці ў Нью-Ёрку. Сябра Вітаўт Кіпель вітаў гасьця ад імя беларускае моладзі, азнаёміў яго зь дзейнасьцяй беларускае моладзі на эміграцыі ды палажэньнем нашых суродзічаў на бацькаўшчыне.

---

**Вітаем** сяброўку Раю Станкевіч з заканчэньнем сярэдняе школы. Рая —адказная супрацаўніца нашага часапісу, яна вядзе кальпартажную й грашовую справу выдавецтва. Яна таксама актыўная сяброўка ньюёрскага аддзелу ЗБМА, сяброўка танцавальна гуртка ды сталая наведвальніца беларускае сыботняе школы.

Далейшыя пляны Раі — пачаць вышэйшую навуку ў галіне хэміі ў Эўропе, куды яна выяжджае на нейкі час увосень сёлета.

**Вітаем** былую вучаніцу гімназіі ймя Янкі Купалы й шчырую Беларуску сяброўку Валю Вайцяхоўскую й сп. Эврэта Каўэта з нагоды іхнага шлюбу, што адбыўся 13 жнівеня. Шчасьці Божа!

Да ўсіх нашых чытачоў зварачаемся з просьбай: **Пішэце нам** аб сваіх прыгодах і дасягненьнях, аб жыцьці беларускае моладзі ў вашай мясцовасьці. Памажэце зрабіць аддзел хронікі запраўднай хронікай беларускае моладзі ў вольным сьвеце!

З прычыны сьмерці Сьв. Пам. Мітрафорнага Пратаерэя **а. Хведара Данілюка**, настаяцеля сабору БАПЦ у Нью-Ёрку й былога ўдзельніка Слуцкага Паўстаньня, рэдкалегія часапісу „Беларуская Моладзь" і кіраўніцтва ЗБМА выказваюць сям'і памерлага глыбокае спачуваньне.

# ПАЛІТЫКА У САВЕЦКІМ СПОРЦЕ

Прэзыдэнт Амэрыкі Айзэнгаўэр на ўпаўнаважаньне й просьбу амэрыканскага Кангрэсу абвесьціў тыдзень, што пачынаўся 17 ліпеня, Тыднем Паняволеных Народаў. Месяц пасьля гэтага ў сталіцы Італіі, у Рыме, адбылася 17-я міжнародная алімпіяда. На гэтай вялікай спартовай сустрэчы былі Беларусы, але ня было Беларусі — выпадак, які навочна ілюструе тое, што абвешчана ў рэзалюцыі амэрыканскага Кангрэсу й праклямацыі Прэзыдэнта Айзэнгаўэра: што беларускі народ, як і іншыя народы Цэнтральнае Эўропы й Азіі, паняволены вялікадзяржаўніцкім расейскім камунізмам.

Бо як-жа інакш? — На алімпіядзе былі рэпрэзэнтаваныя самыя розныя дзяржавы сьвету, навет тыя, што зусім нядаўна стрэсьлі зь сябе цяжар каляніяльнае залежнасьці. А вось Беларусь, што абвешаная ўсімі паказьнікамі сувэрэннасьці — пачынаючы ад дэлегацыі ў Задзіночаных Нацыях аж да дзяржаўнага гімну — паказацца на алімпіяду не атрымала права.

Беларускасьць прадстаўнікоў нашае бацькаўшчыны зашылі пад шыльдаю „СССР", каб іхныя дасягненьні было лягчэй запісаць на расейскі конт. Бальшавіцкая прэса шчодра цытавала наіўныя захапленьні заходніх журналістых „рускімі" перамогамі, падказваючы савецкаму чытачу, што й для Захаду СССР — гэта Расея. Гэтак сілы й здольнасьці сыноў падбітых народаў Масква запісвае на свой конт, каб мацней сядзела пятля няволі.

Прысабечваньне чужых вартасьцяў — зьява вельмі характэрная расейскаму каляніялізму. Прыкладам, усіх беларускіх навукоўцаў і мастакоў, што за царом змушаныя былі вучыцца й працаваць у Расеі дзеля тае толькі прычыны, што на Беларусі вышэйшыя навучальныя ўстановы былі забароненыя, сяньняшнія спадкаемцы й працягальнікі царскае русыфікацыйнае палітыкі запісваюць у рубрыку „рускіх", часта хаваючы навет іхнае месца нараджэньня. Гэтае характэрнае расейскаму паняволыніцтву духовае рабаўніцтва вельмі тонка праводзіцца і ў галіне спорту. Памагае гэтаму жахлівая непаінфармаванасьць Захаду пра нацыянальныя праблемы пераніцаванае на атэістычны лад расейскае імпэрыі. Гэтую непаінфармаванасьць з асаблівай руплівасьцяй разводзіць і пашырае расейская эміграцыя — старая й новая — улучна з тэю палітычнаю часткаю, што выстаўляе сябе за антыкамуністых. А дзеля таго, што на Захадзе шмат хто захапляецца багатай расейскай культурай, у гэтым захапленьні паддаецца й засьляпленьню.

Бальшавіцкі прапагандавы мэханізм духовага рабаўніцтва паняволеных народаў вельмі просты. І Амэрыканцу, і Французу, і іншым лягчэй (і практычней!) газарыць „Раша", чымся „Юньён оф Сов'ет Соўшэліст Рэпабліке" ці хоць-бы гэнае скарочанае „Сов'ет Юньён". А ад тае „Рашы" выводзяцца і ўсе прыметнікі, якімі абазначаецца ўсё, што паходзіць з тэрыторыі савецкае імпэрыі. А савецкая закулісная прапаганда на Захадзе рупліва памагае гэтаму. Гэтак, прыкладам, летась у Нью-Ёрку армянскія й украінскія песьні, што выконваліся камбінаванай савецкай трупай, з блаславенства савецкага прадстаўніка ў сьведамасьць Амэрыканцаў падаваліся пад агульным афішаваным назовам „Рашн Фэстывал". Гэтак-жа, ужо адваротным парадкам, савецкая прэса, цытуючы заходнія газэты, імкнецца паказаць жыхарству Савецкага Саюзу захапленьне Захаду „рускімі" спутнікамі, „рускімі" навуковымі, „рускімі" атлетамі.

Падсавецкая Беларусь мае сваю канстытуцыю, але ня мае свае самастойнае нацыянальнае спартовае арганізацыі. Прадстаўнікі менскага ўраду маюць права зьвінавачваць Захад у каляніялізьме, але прадстаўнікі калянізаванае Беларусі ня могуць выступіць на міжнароднай спартовай сустрэчы ад імя свае Бацькаўшчыны.

*Аркадзь Булдзіг.*





**Зь гісторыі беларускага спорту**

# МІХАСЬ ДЗЯВОЧКА — МІЖНАРОДНЫ ЧЭМПІЁН

Паміж лясоў і рэк Беларусі, дзякуючы здароваму клімату краю й высокім прынцыпам маральнага быту нашага народу, у нас было шмат дужых целам і мужных духам асілкаў. Тады яшчэ, калі не вялося спартовае хронікі, іхныя сіла й спрыт знаходзілі сваё адлюстраваньне ў песьнях і легендах, што й да сяньня бытуюць у нашым народзе. Шмат у гэтым фальклёры народнае фантазіі й паэтычнага таленту, але ў васнове ўсяго ляжаць праўдзівыя рэальныя людзі й праўдзівыя здарэньні.

* * *

Цяпер у Эўропе вельмі разьвіты самакатны спорт. У кажным краі штагоду ладзяцца мясцовыя й агульныя самакатныя выперадкі, у якіх бяруць удзел дзесяткі, а часамі й сотні найдужэйшых спартсмэнаў. Вялікае папулярнасьці набылі, прыкладам, міжнародныя самакатныя выперадкі, званыя „Тур дэ Франс", якім шмат увагі прысьвячае заходня-эўрапейская прэса.

* * *

На Беларусі самакатным спортам займаліся яшчэ ў канцы 19-га стагодзьдзя, і ўжо тады гэты спорт меў сваіх выдатных прадстаўнікоў. Адным зь іх быў малады мянчанін Міхась Дзявочка, які здабыў сабе вялікую славу.

Самакатным спортам Міхась захапляўся яшчэ маладым хлапцом, працуючы ў Менску рысаўніком. Пасьля, калі яго перавялі на працу ў Маскву, ён ня кідае свайго ўлюбёнага занятку. У 1894 г. Міхась Дзявочка бярэ ўдзел у самакатных выперадках Масква—Ніжні Ноўгарад ды стаецца пераможцам. 268 міляў дарогі ён праехаў за 25 гадзінаў 43 часіны.

Імя Міхася Дзявочкі сталася шырака ведамым пасьля міжнародных самакатных сусьцігаў па дарозе Пецярбург—Масква (444мілі). У гэтых сусьцігах узялі ўдзел найлепшыя спартсмэны Заходняй Эўропы: Рэгейс, Работь, Грунтэр, Фішэр, Гергер. Умовы сусьцігаў былі вельмі простыя: удзельнікі самі сабе вызначалі час адпачынку ды мелі права мяняць самакаты. Выперадкі былі нязвычайна напорныя і, наўсуперак усім прагнозам, пераможцам гэтага даўгога й напружанага змаганьня стаўся Беларус Міхась Дзявочка. Сваіх дужых супорнікаў ён абагнаў на 44 часіны. 444 мілі цяжкое дарогі ён праехаў за 36 гадзінаў 10 часінаў 35 сэкундаў, ня сплючы, спыняючыся толькі для кароткіх падсілкаваньняў. Цікава, што маршрутнае мэню беларускага пераможца было таксама беларускае: гарачая капуста, каша ды салодкая гарбата.

**Янка З.**

## Абрыкосы на Берасьцейшчыне

*Варогаюгыся пасьля ўцякаитва ў гасе першае сусьветнае вайны на бацькаўшгыну, жыхары Берасьця прэвезьлі з сабой з паўдзённай Расеі косткі абрыкосаў, якія яны й пасадзілі на сваёй зямлі. Расьціна добра прынялася й за 5 год дала ўраджай.*

*Ад таго гасу прайшло блізу 40 год, і цяпер на Берасьцейшгыне расьце каля 1000 абрыкосавых дрэваў. Параўнальна халаднаваты клімат Берасьцейшгыны спрыгыніўся да таго, што вырабіўся тып абрыкосу, адпорны да холаду. Беларускія абрыкосы — гэта вялікая каштоўнасьць як выходны матар'ял для пасоўваньня гэтае расьціны далей на поўнаг.*

*Берасьцейскія абрыкосы досыць ураджайныя. Сярэдні ўраджай на дрэва — 50 кг., а больш магутныя дрэвы даюць 150 і навет 200 кг.*

## NATURAL RESOURCES OF BYELORUSSIA

Ethnographic Byelorussia covers an area of 320 thousand square kilometers (125,000 sq. miles), but Byelorussian SSR occupies only 207.6 thousand square kilometers, which is only two-thirds of Byelorussia's ethnographic territory.

Byelorussia has many mineral deposits of various kinds. However these have not yet been extensively exploited. Geological works show that there are great possibilities for the development of industry based on local mineral resources, but the present day government in Byelorussia develops its branches of industry, not with the use of local raw materials but with imported materials.

*Power resources.* Byelorussia posseses the potential for many sources of power.

The *hydropower* potential of more than 3000 Byelorussian rivers can yield over two billion kwt/hours of effective power. However, Byelorussia's present production of hydropower is only two percent of this. Today Byelorussia's chief power resource is *peat.* Its known resources are estimated at 30-40 billion of cubic meters. In the Byelorussian SSR, at the present time, there are 6320 known



deposits of peat of industrial importance, but only 380 of these are in production.

*Oil.* Geologic work carried out during almost three decades has confirmed the fact that oil deposits occur in Byelorussia. The oil deposits are found in the Jelsk region. These deposits are quite rich and show signs of the possibility of discovery of oil in other parts of southeastern Byelorussia. The prospecting operations are now in progress.

*Coal.* The greatest coal production is concentrated in the north-eastern Smalensk district. According to recent geologic investigations, coal deposits are found also in south-eastern Byelorussia (district of Mozyr, Jelsk). There thirteen coal-bearing strata were discovered at a depth of 200 m. The thickness of the richest of these is 5 meters.

Large reserves of *lignite* (especially in Mozyr district) could be an additional source of energy. But lignite is almost unexploited in Byelorussia.

*Metallic resources.* At present no metallic ore deposits are known in Byelorussia, but geologic research shows that the area between Bransk—Mahileu—Smalensk is very promising for discovery of iron ore deposits (similar to the Kursk deposits). Prospecting is also in progress for zirconium and other important minerals, which could be discovered in the crystalline basement of the Byelorussian territory.

*Limonite.* is very abundant in Byelorussia and is partly used as raw material in the dye industry.

*Salts.* As it appears now, Byelorussia posseses one of the greatest salt deposits in Europe. Recently discovered deposits of salt (potash and soda) near Starobin reach about 1500-1800 meters of productive thickness.

Byelorussia posesses important deposits of *phosphates* near Mscislaul, Krycau and Horadna, but these are almost unexploited.

Other mineral raw materials to be found are: vivianites, marls, chalk, limestones, dolomites and a very great number of sand and clay deposits. Particularly important are siliceous sands and refractory clays distributed almost uniformly throughout the entire territory of Byelorussia.

*Major health resources.* Major health resources of Byelorussia are related to mineral sources. These are: Druzhieniki, Babrujsk, Miensk, Barysau, Lepel, Jelsk, Hlusk, Staryja Darohi, Kryvicy, Drysa, Haradok, Vorsa, Lahojsk and many places in Smalensk District.

*Forests* represent the greatest national wealth. Almost 40% of Byelorussia is covered by forests. The climatic and soil conditions are very favorable to the growth of a large variety of trees of high quality. The forests of Byelorussia are the chief source of wood for many parts of the USSR. The forest area is decreasing because of purely colonial methods of exploitation.

**Рэдкалегія:** Я. Запруднік, В. Кіпель, Ю. Станкевіч, В. Станкевіч (Гал. Кір. ЗБМА), Б. Русак.

**Карэспандэнты:** Ул. Дунец, Н. Жызьнеўскі.

**Адміністратар:** Ю. Станкевіч.

**Тэхнічны рэдактар:** В. Мельяновіч.

**Кальпартаж:** Рая Станкевіч і мясцовыя прадстаўнікі.

